Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 21 240.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236-85-49

# НАВІНЫ



Пятніца, 22 траўня 1998 г. № 53 Кошт свабодны

## СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## Быкаў едзе на Поўнач

**Васіль Быкаў збіраецца пакінуць Беларусь — часова. У чэрвені па запрашэнні фінскага ПЭН-цэнтра пісьменнік выязджае ў Хельсінкі.**

Як нам паведаміў Васіль Уладзіміравіч, ён праведзе ў Фінляндыі летнія месяцы. Пісьменніцкая арганізацыя гэтай краіны дала яму магчымасць адпачыць і паправіць здароўе. Аднак Васіль Быкаў будзе не толькі адпачываць у паўночнай краіне, але і працаваць.

На ягоную думку, маральны клімат у цяперашняй Беларусі абсалютна неспрыяльны для літаратурнай творчасці, а Васіль Быкаў яшчэ хоча рэалізаваць шмат сваіх пісьменніцкіх задумаў. *«Я не збіраюся заставацца за мяжою назаўсёды,* — сказаў нам народны пісьменнік, — *але цудоўна ведаю, як да мяне ставіцца беларускі рэжым».* Таму Васіль Быкаў не выключае, што яму могуць чыніць перашкоды. Практыка барацьбы з літаратарамі-дысідэнтамі была распаўсюджаная ў савецкія часы, а ў Беларусі прыкметы савецкага мінулага, на жаль, вяртаюцца.

Альгерд НЕВЯРОЎСКІ

## Сэрца на далоні

**У Гомельскім кардыялагічным дыспансеры ўпершыню праведзеная аперацыя на адкрытым сэрцы.**

Яе паспяхова правёў галоўны кардыёлаг рэспублікі Юрый Астроўскі, а пацыентам быў 13-гадовы Саша Алесенка з Гомеля, які пакутаваў ад прыроджанага пароку сэрца. Ужо на наступны дзень пасля аперацыі хлопчык гаварыў, хадзіў і, па ягоных словах, адчуваў сябе добра.

Алена НЕСЫН

## «У маёй смерці прашу вінавацiць бацькоў»

**Такую перадсмяротную запіску пакінула вучаніца шостага класа школы № 54 г.Гомеля. Яна скінулася з даху 15-павярховага дома.**

Гэта не першы выпадак у Гомелі. Нагадаем, што ўзімку трое маладых хлапцоў узняліся на дах шматпавярховага дома і, узяўшыся за рукі, скочылі ўніз. Следства па справе скончылася, але прычыны самагубства так і засталіся нявысветленымі.

Уладзімір ВАЛЕЎСКІ

## Антановіч пакрыўдзіўся на Еўрасаюз

**Учора міністр замежных справаў Іван Антановіч правёў брыфінг для журналістаў.**

Знешнепалітычнае ведамства зноў занялося інтэграцыйнымі працэсамі. Па словах міністра, праводзіцца «серыя напружаных кансультацыяў, якія канцэнтруюцца на магчымым умацаванні СНД».

Міністр спыніўся на заяве дырэктара аддзела Сусветнага банка па Беларусі і Украіне Поля Сігельбаўма пра магчымае адкліканне з Беларусі прадстаўніка Сусветнага банка. Антановіч прызнаў крытыку Сігельбаўма «абгрунтаванай» і выказаў спадзяванне на «выхад да новых параметраў лібералізацыі».

Кіраўнік знешнепалітычнага ведамства паведаміў, што 15 чэрвеня прэзідэнт Лукашэнка паедзе ў Егіпет, а прэм'ер-міністр — на Кіпр. Сам жа Антановіч спадзяецца пабываць у Лацінскай Амерыцы, Кітаі і Таджыкістане.

Іван Антановіч сказаў, што некаторыя паслы, якія маюць рэзідэнцыі ў Драздах, збіраюцца там застацца і «перажыць рамонт сваіх памяшканняў». Яны маюць доўгатэрміновыя дамовы на карыстанне рэзідэнцыямі і ўклалі значныя сродкі для стварэння камфортных умоваў. Па словах міністра, прэзідэнт Лукашэнка і прэм'ер-міністр ужо пераехалі з Драздоў. Але нам не ўдалося знайсці пацвярджэння гэтай інфармацыі ў адміністрацыі прэзідэнта.

Міністр выказаў сваё незадавальненне ўручэннем прэміяў ЗША і Еўрасаюза за развіццё дэмакратыі Хартыі-97, Хельсінкскаму камітэту і прафесару Міхаілу Пастухову. Антановіч лічыць, калі Еўрасаюз не мае палітычных адносінаў з афіцыйнымі ўладамі, то нельга іх мець і з апазіцыяй.

Алесь ДАШЧЫНСКІ

## Шыдлоўскага перавялі ў турму

**Актывіст Маладога Фронту Аляксей Шыдлоўскі будзе адбываць пакаранне ў Мінску. Палову тэрміну ён ужо адседзеў у следчым ізалятары. Астатнія 9 месяцаў Шыдлоўскі будзе ўтрымлівацца ў мінскай турме, што на вуліцы Кальварыйскай, куды днямі ён быў пераведзены.**



У лісце, дасланым роднымужо з турмы, Аляксей піша, што цяпер знаходзіцца «у карантыне» — спецыяльным памяшканні, дзе трымаюць навічкоў да размеркавання па камерах. Каб не сядзець без працы, ён паспрабаваў уладкавацца ў турэмны сталярны цэх, але не ўзялі. Даведаўшыся, што Шыдлоўскаму засталося сядзець менш года, яму адказалі: *«Няма сэнсу браць цябе на працу, бо хутка выйдзеш на волю».* Быў гэта верагодны прагноз ці проста прычына для адмовы, Аляксей не ведае. Між тым, ён піша, што турэмная адміністрацыя і асуджаныя ўжо рыхтуюцца да вельмі важнай падзеі — жнівеньскай амністыі. У турме гэта тэма нумар адзін. Ці пападзе Шыдлоўскі пад амністыю?

Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ

## Швейцарскага госця «нагрузілі»

**У Беларусь прыехаў дэпутат парламента Швейцарыі Ульрых Шлюер. Афіцыйная прапаганда, як звычайна, трубіць пра «прарыў міжнароднай ізаляцыі».**

Між тым, сп.Шлюер, сустракаючыся два тыдні таму з беларускімі журналістамі ў швейцарскім парламенце, падкрэсліў, што ягоная паездка ў Беларусь будзе насіць выключна прыватны характар. *«Мой сябра займаецца рэалізацыяй аднаго швейцарска-беларускага праекта, шмат расказваў мне пра вашую краіну, і я вырашыў паехаць, каб убачыць на ўласныя вочы»,* — сказаў У.Шлюер.

Аднак у беларускай дыпламатыі былі на гэты конт іншыя планы. *«Дэпутаты проста так прыватна не ездзяць. Мы пастараемся яго нагрузіць па поўнай праграме»,* — адказалі на пытанне пра характар будучай паездкі У.Шлюера супрацоўнікі беларускай амбасады ў Бэрне. І «нагрузілі»: швейцарскі парламентарый меў сустрэчы ў «палаце прадстаўнікоў», з ім таксама выказалі жаданне спаткацца кіраўнік прэзідэнцкай адміністрацыі М.Мясніковіч і віцэ-прэм'ер У.Гаркун.

Магдалена НЕПАКАЙ

## Вярхоўны суд пашкадаваў бельгійца

**Вярхоўны суд зменшыў тэрмін пакарання грамадзяніну Бельгіі Вілі Солі, які адбывае пакаранне ў калоніі ў Магілёўскай вобласці.**

Нагадаем, што 57-гадовы кіроўца вёў аўтобус «Неаплан», які 1 ліпеня 1997 года перавярнуўся на аўтадарозе ў Кобрынскім раёне; у выніку аварыі загінулі чацвёра і атрымалі траўмы больш як 60 дзяцей з Рэчыцкага раёна, якія ехалі на лячэнне ў Бельгію. Вадзіцель быў асуджаны ў лістападзе мінулага года да васьмі гадоў пазбаўлення волі. Вярхоўны суд улічыў шчырае раскаянне асуджанага, яго стан здароўя і палічыў магчымым змякчыць прысуд, скараціўшы тэрмін зняволення з васьмі да пяці гадоў.

## Двум – смяротны прысуд

**У Магілёве завяршыўся гучны судовы працэс над бандай злачынцаў, які доўжыўся больш чым паўгода.**

Судзілі злачынную групоўку з райцэнтра Чавусы. Чатырох бандытаў абвінавачвалі ажно па 22-х артыкулах Крымінальнага кодэкса. На іх рахунку сем забойстваў, мноства згвалтаванняў, бандыцкіх нападаў, абрабаванняў і крадзяжоў. Суд палічыў даказанымі 50 эпізодаў з 70-ці.

Двух бандытаў асудзілі да расстрэлу, двое атрымалі 10 гадоў і 3 гады 4 месяцы пазбаўлення волі. Самі асуджаныя сваёй віны не прызнаюць.

*БелаПАН*

## У авангардзе – жанчыны

**Больш за 80% беларусаў падчас праведзенага прафсаюзамі сацыялагічнага апытання адзначылі пагаршэнне эканамічнай сітуацыі.**

На ананімныя анкеты адказвалі рабочыя, служачыя і спецыялісты, якія працуюць у Мінску, усіх абласных і шэрагу раённых цэнтраў. 82,8% рэспандэнтаў лічаць, што эканамічная сітуацыя ў краіне пагоршылася; амаль 40% адносяць сябе да катэгорыі бедных людзей. Паказальна: 49,7% рэспандэнтаў не могуць сабе дазволіць паўнацэнна харчавацца; 57,2% — набываць адзенне і абутак; 63,5 працэнта — нармальна ўтрымліваць сям'ю. Аналізуючы анкеты, спецыялісты прыходзяць да высновы, што большая частка апытаных ледзь выжываюць, нягледзячы на наяўнасць пастаяннай працы і дастаткова высокі ўзровень кваліфікацыі.



Аднак сацыяльная актыўнасць працоўных нізкая: толькі 14% лічаць за неабходнае перайсці да актыўных формаў пратэсту, аж да забастовак. Большасць прыхільнікаў рашучых дзеянняў складаюць жанчыны. Іх узрослая палітычная актыўнасць і гатоўнасць ісці на радыкальныя меры сведчаць, на думку сацыёлагаў, аб вельмі неспрыяльнай сацыяльнай атмасферы ў беларускім грамадстве.

*БелаПАН*

### Дыпламатыя

***У Брэсце адчыняецца консульства Украіны. Як і расійскае консульства, яно будзе працаваць на дзве вобласці — Брэсцкую і Гродзенскую. Консулам Украіны ў Брэсце прызначаны Ігар Кочатаў, які прыступіць да працы бліжэйшым часам.***

### Беспрацоўе

***Колькасць эканамічна актыўнага насельніцтва Беларусі знізілася да 4,6 мільёна чалавек, гэта складае 44,7% насельніцтва. Дапамога па беспрацоўі ў красавіку была налічана 47,9 тысячы беспрацоўных, сярэдні памер дапамогі на аднаго беспрацоўнага склаў 325,6 тысячы рублёў (каля 9 долараў ЗША).***

### Здароўе

***Толькі 10% родаў у Беларусі праходзяць нармальна. З года ў год сітуацыя пагаршаецца; галоўная прычына — праблемы са здароўем у большасці жанчын і мужчын, выкліканыя перш за ўсё непаўнацэнным харчаваннем і хваробамі, набытымі ў дзяцінстве і падлеткавым узросце.***

## Паляванне на «зайцоў» – бізнес для пенсіянераў

**У Гомелі множацца кантралёры-самазванцы. Днямі міліцыя затрымала двух пенсіянераў, якія спрабавалі аштрафаваць за безбілетны праезд навучэнца ліцэя.**

Аматарскае кантралёрства — справа даволі выгадная, таму псеўдакантралёры (пераважна сталага веку) рэгулярна прачэсваюць тралейбусныя маршруты Гомеля. Сустрэцца з такімі можна і ў вагоне прыгараднага дызеля. Штрафануўшы за гадзіну трох-чатырох «зайцоў» і паклаўшы ў кішэню 400 тысячаў рублёў, зухаваты пенсіянер можа вольна правесці вечар, зусім не думаючы пра тое, як будзе жыць заўтра. Галоўнае, каб не адмянілі цяперашніх памераў штрафу — 0,5 мінімальнага заробку, або 125 тысячаў рублёў.

Уладзімір ВАЛЕЎСКІ

## Чарлі Чаплін навучыў

**«Я браў прыклад з Чарлі Чапліна», — прызнаўся адзін з жыхароў вёскі Заверэжжа Магілёўскага раёна, расказваючы, як ён краў.**

На працягу некалькіх месяцаў з крамы знікалі бутэлькі з гарэлкай. Як гэта адбывалася, ніхто не мог даўмецца. Прадаўшчыца была вымушаная звольніцца. Бутэлькі працягвалі знікаць, а слядоў злодзея не заставалася.

Так цягнулася каля 3 месяцаў. Урэшце міліцыя знайшла злодзея. Злачынец прызнаўся, што ён убачыў у фільме з Чарлі Чаплінам, як трэба красці. Герой славутага коміка выстаўляў у фортачцы шкло і даставаў што хацеў з дапамогай рыбалоўнай вуды.

Суд прыгаварыў «аматара нямога кіно» да 2 гадоў папраўчых прац.

Іван ЗАСАДА

# Што прадаюць – тое і купляем

**Дэпутаты Брэсцкага абласнога савета два дні абмяркоўвалі на сваёй сесіі праблему гандлёвага абслугоўвання сельскага насельніцтва.**

Як паведамляе БЕЛТА, аб актуальнасці гэтага пытання *«не раз заяўляў прэзідэнт краіны, які ўзяў пад свой кантроль праблемы забеспячэння сельскіх магазінаў таварамі і прадуктамі харчавання»*. Праўда, у вясковых крамах мала што змянілася, нягледзячы на тое, што за справу ўзяўся такі важны кантралёр.

Б.П.



*На здымку: асартымент вясковай крамы-аўталаўкі.*

# Дэфіцыт мяса арганізавала міністэрства гандлю?

**Міністр гандлю Пётр Казлоў заявіў учора журналістам, што не выключае далейшага росту цэнаў на некаторыя прадукты харчавання.**

За апошнія месяцы замест дазволеных прэзідэнтам 2% цэны падскочылі ўжо на 3,6%, а мяса і цукар падаражэлі ажно на 10% працэнтаў. Па словах П.Казлова, цукар падаражэе яшчэ *«на пару тысячаў рублёў»*, вараныя каўбасы на 10—14 тысячаў. Міністр прызнаў, што існуюць перабоі з прадуктамі харчавання і ажыятаж сярод пакупнікоў. Па яго словах, цяпер гандаль мае рэзерваў цукру не больш як на 5—6 дзён.

Дэфіцыт курацiны і іншага мяса птушкі Пётр Казлоў растлумачыў тым, што «Белптушкапрам» экспартуе яго ў Расію, каб зарабіць валюту на пасяўную. Птушка — гэта адзіны прадукт, які можна паспяхова прадаць у саюзнай краіне.

Што ж да ялавічыны і свініны, дык, па словах міністра, мясам лядоўні проста забітыя. Перабоі адбыліся нібыта па той прычыне, што міністэрства збірала мяса ў запас.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

ЗДАРОЎЕ

# Чырвоны Крыж б'е трывогу

**Міжнародны Чырвоны Крыж паведамляе, што з 1990 года ў Беларусі колькасць захворванняў на сіфіліс вырасла ў 80 разоў.**

На гэтым тыдні ў Мінску праходзіла канферэнцыя па барацьбе з сацыяльнымі хваробамі, якую праводзіла Міжнародная федэрацыя таварыстваў Чырвонага Крыжа. Сярод удзельнікаў быў распаўсюджаны дакумент, у якім звяртаецца ўвага на найбольш небяспечныя захворванні канца XX стагоддзя, што з'яўляюцца «рэальнай пагрозай будучыні нацыі».

*«Былыя дасягненні ў галіне аховы здароўя практычна знішчаныя суровымі рэаліямі сучаснага жыцця: масавым збядненнем насельніцтва, падзеннем узроўню жыцця, вяртаннем забытых сацыяльных хваробаў»*, — гаворыць прадстаўнік Міжнароднай федэрацыі Хокан Хэлберг. Так, з 1990 года колькасць захворванняў на туберкулёз вырасла ў Беларусі ўдвая, на сіфіліс — у 80 разоў, а колькасць ВІЧ-інфіцыраваных расце пагражальна хутка.

Міжнародная канферэнцыя была скліканая для таго, каб выпрацаваць стратэгію і план дзеянняў у барацьбе з гэтымі хваробамі. Наступная канферэнцыя, на якой будуць разглядацца пытанні фінансавання канкрэтных праектаў, адбудзецца ў другой палове 1998 года. Асаблівая ўвага будзе нададзеная службе сёстраў міласэрнасці — адной з асноўных праграм Чырвонага Крыжа на тэрыторыі былога СССР.

*БелаПАН*

*Дзіцячая смяротнасць*

# Да японцаў нам далёка

**Беларускія медыкі адзначаюць поспех: за апошні час значна скарацілася дзіцячая смяротнасць.**

Як паведаміла вядучы спецыяліст Беларускага навукова-даследчага інстытута аховы мацярынства і дзяцінства Тацццяна Карнілава, цяпер на ўсіх узроўнях, ад раённай бальніцы да рэспубліканскіх цэнтраў, прымяняецца сучасная сістэма комплекснай дапамогі цяжарным і немаўлятам. Яна прадугледжвае строгае назіранне акушэра-гінеколага за станам жанчыны ў апошні месяц цяжарнасці і абавязковую прысутнасць пры нараджэнні дзіцяці рэаніматолага.

Па звестках міністэрства статыстыкі, калі ў 1985 г. смяротнасць складала 13 дзяцей з кожнай тысячы нованароджаных, то цяпер гэтая лічба скарацілася да 10,6. І ўсё ж гэта нашмат больш, чым у развітых краінах: узровень дзіцячай смяротнасці не перавышае ў Японіі 6, а ў Германіі 8 выпадкаў на тысячу.

*БелаПАН*

# Лідчукі ўсіх краінаў, яднайцеся!

**У Лідзе адбылася імпрэза з гучнай назвай Пяты Сусветны з'езд лідчукоў. Яго арганізавала Таварыства польскай культуры Лідчыны.**

Першы з'езд праводзілі ў 1992 г. На такія сустрэчы з'язджаюцца земляхі з суседніх краінаў, а таксама з далёкіх — ЗША, Аўстраліі і іншых. Гэтым разам на з'езд прыехала каля ста землякоў з Польшчы, Швецыі, Англіі і ЗША. Сёлетнія спатканні былі прысвечаныя 200-м угодкам нараджэння Адама Міцкевіча. Для ўдзельнікаў была арганізаваная экскурсія па міцкевічаўскіх мясцінах з заездам на возера Свіцязь. Сярод іншых мерапрыемстваў — візіт на шклозавод «Нёман» у Бярозаўцы, імша ў касцёле і традыцыйны пікнік на беразе Нёмана.

У Шчорсах Навагрудскага раёна дагэтуль стаяў векавечны дуб Міцкевіча. Улады ламалі галовы, што з ім рабіць — нея умацаваць ці спілаваць. Але прырода сама вырашыла ягоны лёс. Перад самым прыездам «лідчукоў усяго свету» лядашы дуб літаральна зрэзала пад самы корань маланкай. Кавалачкі дрэва ўдзельнікі з'езда забіралі з сабой на памяць.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

# 26 рэчыцкіх камісараў у новай магіле

**У Рэчыцы адбылося ўрачыстае перапахаванне паводле праваслаўнага абраду парэшткаў байцоў НКВД, якія ў чэрвені 1941 года на пяты дзень вайны загінулі побач з мастом праз Днепр.**

Па афіцыйнай версіі, 26 чэкістаў снедалі, калі нямецкі лётчык скінуў фугасную бомбу проста ў сярэдзіну стала. Цэлы 17-ці былі сабраныя і пахаваныя ў агульнай магіле, а парэшткі яшчэ дзевяці — побач з ёй. І вось цяпер па ініцыятыве міністэрства абароны РБ правялі эксгумацыю і перапахаванне костак. Вядомае прозвішча толькі аднаго з загінуўшых, імёны астатніх — удакладняюцца. Вядома таксама, што сярод іх была жанчына.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

# Антончыка баяцца пусціць у метро

**Працягваюцца пакуты былога дэпутата Вярхоўнага Савета Сяргея Антончыка: ён ніяк не можа знайсці сабе працу на прадпрыемствах Мінска.**



Мы ўжо паведамлялі, што Антончыку адмовілі нават у месцы грузчыка на трактарным заводзе: у аддзеле кадраў МТЗ шчыра прызналіся, што ёсць загад зверху *«не браць Антончыка на працу ні ў якой якасці»*. На Мінскім аўтазаводзе паўтарылася тая ж гісторыя, што і на МТЗ. Спачатку былому дэпутату, які звярнуўся з заявай аб працаўладкаванні, прапанавалі стаць «валачоўшчыкам» (гэта праца па выцягванні дротаў на патрэбную даўжыню). Антончык пагадзіўся. Ён ужо прайшоў медагляд і нават атрымаў табельны нумар, калі яго выклікалі да кіраўніка аддзела кадраў сп.Высоцкага. *«Вашыя паслугі нам непатрэбныя»*, — заявіў былому дэпутату кадравік.

МАЗ — гэта ўжо пятае прадпрыемства ў Мінску, якое «адфутболіла» Сяргея Антончыка. Сярод «адмоўшчыкаў» быў таксама Мінскі метрапалітэн, дзе Антончыку сказалі літаральна так: *«Нам не трэба, каб цягнікі пачалі сыходзіць з рэек»...*

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

# Беларускія банкі знікаюць у Беларусі

**Колькасць беларускіх банкаў паступова скарачаецца. На сённяшні дзень зарэгістравана 29 банкаў, з іх нармальна працуюць толькі 27.**

У пачатку 90-х гадоў банкі ў Беларусі хутка раслі і множыліся. У 1991 г., калі пачалося стварэнне крэдытных установаў, было зарэгістравана 25 фінансавых структураў. А ўжо пад канец 1994 г. іх колькасць вырасла амаль удвая — 48 банкаў. Прайшоў год, і пачатая ўрадам палітыка на выцясненне дробных і сярэдніх банкаў дала вынік: на канец 1995 года 6 з іх было зачынена. Цяпер лічба, як бачым, ужо набліжаецца да ўзроўню 1991 г.

Зразумела, што якасны рост важнейшы за колькасны. Аднак, на думку спецыялістаў, якраз якаснага росту не заўважана. Беларускія банкі непараўнальна слабейшыя, напрыклад, за расійскія. Так, аб'ём грошай, акумуляваных у ОНЭКСІМбанку, у некалькі разоў перавышае активы ўсіх беларускіх банкаў, разам узятых.

Цяпер большасцю грошай у Беларусі распараджаюцца банкі, якія ўзніклі на аснове былых савецкіх Ашчадбанка, Жылсацбанка, Прамбудбанка, Аграпрамбанка, Знешэканамбанка. 6-ці буйнейшым беларускім банкам належыць каля 90% грошай. Яны разам з філіялам Мосбізнесбанка і невялікім Беларускім банкам развіцця маюць права абслугоўваць розныя дзяржаўныя праграмы. А як вядома, асноўныя грошы цяпер — якраз дзяржаўныя.

Невялікім банкам нічога не застаецца, як шукаць сабе замежных партнёраў. Невыпадкова, што ў апошнія гады колькасць паведамленняў аб інвестыцыях у беларускія банкі з-за мяжы павялічылася. Амаль усе гэтыя інвестыцыі — з Расіі. Ёсць падставы сцвярджаць, што доля замежных і сумесных банкаў у Беларусі будзе расці. Калі Мосбізнесбанк рэалізуе свае планы і купіць Белбізнесбанк, то доля грошай, якія кантралююць замежныя банкі ў Беларусі, павялічыцца адразу на 5%.

Банкі з замежным капіталам перацягваюць да сябе буйных кліентаў. У надзейнасці беларуска-расійскіх банкаў ніхто не сумняваецца: за імі бачаць буйных расійскіх акцыянераў, якія выратуюць свае структуры ад любых праблемаў. У выніку, калі працэс пойдзе такімі тэмпамі і далей, беларуская банкаўская сістэма можа стаць поўнасцю падкантрольнай расіянам.

**Алесь САДОЎСКІ**

*Замест анекдота*

# Прэзідэнцкая ласка

Сёння прэзідэнт Лукашэнка збіраецца на два дні адляцець у Яраслаўскую вобласць. Аляксандр Рыгоравіч прыбудзе туды не з пустымі рукамі. Як паведаміла БЕЛТА, напярэдадні паездкі беларускі прэзідэнт *«объявил благодарность губернатору Ярославской области А.Лисицыну»*.

Б.П.

*Студэнты пішуць...*

# Дыскрымінацыя ў вышэйшай школе

**Група студэнтаў Недзяржаўнага інстытута кіравання і прадпрымальніцтва звярнулася да віцэ-прэм'ера Беларусі Уладзіміра Замяталіна з адкрытым лістом.**

«Сродкі масавай інфармацыі, — пішуць студэнты, — распаўсюдзілі Вашую заяву, што выпускнікам недзяржаўных ВНУ будуць выдаваць дыпломы недзяржаўнага ўзору». Аўтары ліста лічаць такое рашэнне дыскрымінацыйным. «Вынікам гэтага рашэння стаўіцца пад сумненне будучыня 30 тысячаў маладых людзей, магчымасць іх працаўладкавання і працы на дабрабыт краіны і народа, — гаворыцца ў лісце. — Мы — грамадзяне Рэспублікі Беларусь, тут нарадзіліся, выраслі. Тут жывуць нашы бацькі. Тут, у гэтай краіне, мы маем намер жыць і працаваць далей. Але такой магчымасці дзяржава нас пазбаўляе». Ліст падпісалі 1.800 студэнтаў.

*БелаПАН*

# «Свята працы» зацягнулася

**У горадзе Шклове Магілёўскай вобласці сродкі ў фонд «усенароднага» суботніка, які праходзіў у красавіку, працягваюць збіраць і цяпер.**

Улады абвесцілі той суботнік вельмі паспяховым — маўляў, у свяце добраахвотнай працы было шмат зароблена для розных неадкладных патрэб. Пасля ў школьскіх школах настаўнікам паведамілі: педагогі атрымаюць свой заробак толькі пасля таго, як распішуцца ў ведамасці на пералічэнне сродкаў у фонд суботніка. А пералічыць трэба шмат — каля 100 тысячаў рублёў з чалавека. У адной са школаў настаўнікі дагэтуль адмаўляюцца рабіць «добраахвотныя» ўзносы, і ім не выдаюць заробку. Свята вольнай працы працягваецца.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

## Міліцыя бывае розная

Я думала, што з паходамі ў афіцыйныя ўстановы і асабліва ў міліцыю могуць быць адныя непрыемнасці. Ажно аказалася — бывае і наадварот.

Мне трэба было памяняць пашпарт, бо тэрмін дзеяння старога скончыўся. Я доўга адкладала гэты клопат, бо неяк унутрана баялася, не хацела ісці ў міліцыю. Па-першае, сама не раз бачыла, што вырабляюць «ахоўнікі парадку» падчас мірных маніфестацый. Па-другое, надта ж ужо кідаецца ў вочы кантраст паміж новым, дагледжаным, акуратным будынкам Цэнтральнага райаддзела міліцыі і той паліклінікай, куды я ваджу сваіх дзяцей; заўсёды думала — чым жа гэтыя здаровыя дзядзькі ў мундзірах лепшыя за нашых дзетак?

І вось прыйшла. І гэта быў, бадай, адзіны выпадак у маім жыцці, калі я выйшла з дзяржаўнай канторы задаволеная. Гэта быў адзіны выпадак, калі чыноўнікі паставіліся да мяне як да чалавека — гаварылі ветліва, слухалі ўважліва. І я тады падумала: як добра, што я жыву ў Цэнтральным раёне сталіцы, і ў мяне такая міліцыя, прынамсі, пашпартная служба. І я нават перастала шкадаваць тых грошай, якія я падаткамі заплаціла на будаўніцтва будынка РАУС.

Можа быць, гэта і дробязь. Але я хачу сказаць, што ўсё залежыць ад канкрэтных людзей. Не варта мераць усіх на адзін капыл: міліцыянеры таксама бываюць добрыя. Але ўсё ж з тымі, якія на дэманстрацыях, я сутыкацца не хацела б. Ніколі.

**Ганна ЗАНКЕВІЧ**, *Мінск*

## Вандалізм на могілках у Бабруйску

На Радаўніцу я паехала ў Бабруйск, каб наведаць могілкі блізкіх людзей. Могілкі гэтыя знаходзяцца на ўскрайку горада, у пасёлку Цітоўка. Тут я нарадзілася, тут прайшло маё дзяцінства і юнацтва. На гэтых могілках мне было знаёмае кожнае пахаванне.

З некаторага часу гэты пасёлак аблюбавалі цыганы. Абжыліся, пабудавалі дамы, жывуць сваім спецыфічным жыццём. Нават пасёлак людзі пачалі называць «цыганскім».

Тое, што я ўбачыла, мяне вельмі ўразіла: гэта сапраўды вандалізм. Цыганы захопліваюць у цэнтры могілак тэрыторыю, робяць высокія агароджы на некалькі месцаў. А я ведаю, што там пахаванні. Хай недагледжаныя, крыжы паваленыя, зямля асела, але ж там ляжаць косці людзей. Навошта іх перакопваць? Хіба зямлі там не хапае для новых пахаванняў? Побач з могілкамі — пустка.

Гады тры таму я таксама наведала гэтыя могілкі, вырашыла прайсціся, каб успомніць людзей, якіх ведала ў юнацтве. І ўбачыла выкапаны чэрап дзіцяці, перакінуты за агароджу...

Гэтым разам я пабачыла тое ж самае. Цыганы на захопленых участках будуюць вялікія сталы, і ў дзень Радаўніцы сталы ломяцца ад спіртнога і закусак. «Гуляюць» з раніцы да ночы і топчуць старыя неагароджаныя магілкі (бо іх, відаць, ужо няма каму даглядаць, дзяржава таксама да гэтага яшчэ не дадумалася).

Побач з могілкамі стаяла міліцэйская машына, у якой сядзелі тры міліцыянты (відаць, сочаць за тым, каб толькі бойкі не было). Я падышла да іх і пачала казаць пра вандалізм. Яны пацiснулі плячыма і адказалі: «Власти им разрешают»...

Я помню, хоць і была яшчэ маленькай, калі Бабруйск быў вызвалены ад немцаў, то каля кінатэатра «Товарищ» былі нямецкія могілкі. Мяне ўразіла вялікае мноства бярозавых крыжоў. У хуткім часе гэтыя могілкі зруйнавалі ды зрабілі сквер, пасадзілі дрэвы. Але нават камуністы не сталі выкопваць косці ворагаў.

Крыўдна за беларусаў: нашых продкаў выкідваюць з магілаў усялякія прышлыя людзі, а мы бачым і маўчым. Хацелася б звярнуцца да ўладаў горада Бабруйска: адвядзіце кавалак зямлі асобна для цыганоў, зямлі там колькі хочаш. Няхай яны па-свойму, па-цыганску, адзначаюць памінальны дзень, а на старых могілках трэба забараніць рабіць новыя пахаванні. Тое, што там адбываецца, — непрыстойна для чалавека.

Дарагая рэдакцыя, дапамажыце, каб пра ўсё гэта стала вядома тым, ад каго залежыць наведзенне парадку.

**Лідзія ПЯНЬКОЎСКАЯ**, *г. Мінск*

## О привычке к изобилию, которой не было и нет

Ура! Наши достижения в экономике стали, наконец, видны невооруженным глазом. Лозунг «назад, к развитому социализму» воплощается в жизнь. Зайдешь в магазин и видишь в мясном отделе что-то родное с детства — свиные головы и сине-желтую говядину. Вспоминается сразу эскимо по 11 копеек. Нынешняя детвора не знает, что такое копейки, зато может видеть, как еще до открытия магазина «Вырабы з птушкі» собирается очередь. Хвост тянется вдоль всего здания. Стоят женщины, новостями обмениваются. А то ведь было, совсем друг с другом общаться перестали...

Вообще-то с очередями очень мудро придумано. Все стоят в очереди, все вроде при деле, дурными вещами заниматься некогда. Вот я, например, недавно еще кастрюльный бунт организовать хотела. Теперь же некогда этим заниматься. Стоишь в очереди за курицей и расспрашиваешь народ, где купить дешевле детское питание, куда лучше ехать в поисках сахара, обдумываешь, из чего сварить творог, и ломаешь голову, где взять деньги ребенку на обувь. Так и день проходит — когда тут про бунты и пикеты мыслить, на это время нужно, а оно все занято. И не сидишь ведь, а стоишь и бегаешь по магазинам, стоишь и бегаешь — для здоровья полезно.

Творог в магазинах совсем отсутствует. Зато в магазине «Ветеран», говорят, он всегда есть. Вот и спасибо за это. Маленьким деткам можно каждый день его на витрине показывать и говорить, что если вырастут до ветеранов, тоже творога покушают. Как-никак стимул.

А историю родного города можно изучать, проезжая с детской коляской по родным улицам. Хочешь с Запада проехать в Кунцевщину, и сразу поймешь, что Бурдейный был командиром 2-го гвардейского танкового корпуса. Улицу, названную его именем, только на танке можно пересечь, а детская коляска на эти бордюры въехать никак не сможет. Историю изучаем!

Везешь ребенка по тротуарам наших спальных районов в отечественной прогулочной коляске (она без рессор), и дитя сразу готовится к советской действительности: стук-стук-стук головкой на колдобинах. И правильно! Пусть детки привыкают с ранних лет. То ли еще в жизни будет. Мы-то хорошую школу прошли. Наша баба ко всему привыкла. Недаром спрос на нее на Западе великий. И хлеба не будет, мы с макаронов лепешки выпечем. Никита Сергеевич наших матерей научил, они опыт нам передали, а сегодня мы уже свой приобретаем: из кефира — сметану делать, из карамели — сахарный сироп. За такую науку великое спасибо!

Отдельное спасибо за то, что на весь маленький Минск одна детская ортопедическая поликлиника. И с новорожденным с любого конца города будь добр ехать на улицу Кольцова. Человек должен с пеленок привыкать к нашему городскому транспорту.

А коли ты разбогател и у тебя появилось желание своего малолетку плавать научить, то это у них стоит 40 долларов. У нас же это не будет стоить тебе ничего. Во всех новых детских поликлиниках есть бассейны, но не работают «по причине нерентабельности». Так что и за экономию наших семейных денег большое спасибо.

Избиратели нашего правителя мечтали о вареной колбасе по 1 руб. 60 коп. И она появилась. Правда, по другой цене и пока только в буфете администрации президента, зато сразу нескольких сортов. У меня знакомая там работает, угощала. Вкусно. Нежная, ароматная, на вкус — колбаса из мяса. Вот как удобно: один ест, десяткам рассказывает про ее вкус. А как расскажет — у них желудочный сок выделяться начал, они уже будто ее на своем языке ощутили. Смотришь и по-библейски — тремя батонами колбасы таким образом можно попробовать полгорода накормить.

Короче говоря, хотели как раньше — вот и получили: очереди, свиные головы да колдобины. У нас-то и потребностей других нет. Не успели мы привыкнуть к изобилию.

**Галина ТРОЦКАЯ**, *г. Минск*

*ПОДРОБНОСТИ*

## Депутат в тюрьме, но «дело» его живет

**Верховный суд оставил в силе приговор, вынесенный депутату и предпринимателю Владимиру Кудинову.**

Напомним, что В.Кудинов был осужден в августе прошлого года на 7 лет лишения свободы за дачу взятки милиционерам. По мнению адвокатов и правозащитников, его осудили на основании очень шатких доказательств. Эту шаткость детально проанализировал в своей жалобе в Верховный суд общественный защитник Кудинова Иван Вабищевич. Он также указал на многочисленные нарушения законодательства в ходе следствия и суда над Кудиновым.

В ответе Верховного суда даже не предпринимается попытки опровергнуть изложенные в жалобе аргументы и факты по существу. Верховный суд отмел доводы защитника без объяснения причин, зато полностью принял на веру показания милиционеров, получивших, кстати, после задержания Кудинова повышение по службе. «В деле отсутствуют какие-либо данные, которые ставят под сомнение объективность показаний этих свидетелей», — утверждается в ответе Верховного суда. Впрочем, только очень наивный человек мог рассчитывать, что высшая судебная инстанция отменит приговор. Но защитники намерены пройти все инстанции, чтобы потом обратиться в авторитетные международные организации (в частности, в ООН).

Имеется в «деле Кудинова» и еще один аспект — не столько криминальный, сколько экономический. Дело в том, что «за решеткой» оказался не только сам Владимир Кудинов, но и его хозяйство. Наша газета уже сообщала, что на подсобное хозяйство фирмы «Ивацевичи», которую возглавлял Кудинов, наложен арест. Окна помещений, крест-накрест забитые досками, как нельзя лучше символизируют «арестантское» положение хозяйства.

Окна — это только внешний признак, но под стать ему и то, что делается внутри. Судя по результату, для государства главное было — отобрать хозяйство. Что с этим хозяйством будет потом — никого из «государственных мужей» не интересовало. В результате хозяйство, которое при Кудинове снабжало Ивацевичский район качественными и дешевыми мясными продуктами, сразу же после того, как оказалось в загребущих государственных лапах, прекратило свою деятельность. Мало того — имущество, стоимость которого в 1995 г. была официально оценена в 13 млрд. рублей, почти полностью расхищено (оставшееся — разломано).

Напрашивается резонный вопрос: должен ли кто-либо нести за это ответственность? В конце прошлой недели этот вопрос был поставлен перед Брестской областной прокуратурой. Туда обратилась адвокат Галина Дребезова, представляющая интересы фирмы «Ивацевичи», с требованием привлечь к ответственности виновных лиц. Вину за то, что произошло с хозяйством, адвокат возлагает на районную налоговую инспекцию, которая, согласно постановлению Совмина, «обязана обеспечить сохранность имущества».

Однако в возможности каких-то подвижек по этому вопросу, как и по уголовному делу Владимира Кудинова, верится слабо. О надежде поимки расхитителей имущества говорить всерьез просто не приходится: если наша милиция в чем-то и преуспела, то разве что в охоте на демонстрантов. А что касается налоговой инспекции, так ведь основную задачу она выполнила — хозяйство отобрала — значит, ее поощрять надо, а не наказывать за всякие мелочи. Подумаешь, имущество растащили! Во времена Ивана Грозного вотчину опального боярина вольно было грабить всякому. Официально это, правда, не декларировалось, но государство потворствовало этому. От тех времен мы ушли не так уж далеко (во всяком случае, в плане того, что в государстве всё управляется не правом и законами, а прихотями властителя). Впору повторить за персонажем пушкинского «Бориса Годунова»: «Что пользы в том, что явных казней нет?.. Уверены ль мы в бедной жизни нашей?»

**Вадим КАЗНАЧЕЕВ**



*Мінск. Вясна. Народ адпачывае.*



# Галгофа ў кабінеце мэра

У службовым кабінеце мэра Гродна Пашкевіча на адной сцяне вісіць куплены ў магазіне партрэт Лукашэнкі, а на другой — карціна, гэтак званая «гродзенская Галгофа». Яе аўтар, мастак Уладзімір Качан, біблейскі сюжэт узыходжання Хрыста на гару Галгофу сумясціў з гродзенскім гарадскім краявідам. Атрымалася цікава: вось замкавая гара побач з Каложскай царквой XII стагоддзя, а суседняя — сама біблейская Галгофа.

Карціна засталася Пашкевічу ад папярэдняга мэра — Генрыха Крупенкі, якога Лукашэнка без дай прычыны зняў сваім указам у верасні 1996 года. Карціна ўвогуле напісаная паводле Бібліі — на вяршыні Галгофы стаяць два распяцці з укрыжаванымі мужчынамі. Трэці яшчэ толькі цягне ўгору свой цяжкі крыж. Паміж сабой гарвыканкамаўскія чыноўнікі кажуць, што распяты — гэта Крупенка і Домаш: абодва кіравалі горадам і абодвух прэзідэнцкая ўлада «адставіла».

Мяркуючы па ўсім, трэцім, каторы цягне крыж, лічаць самога Пашкевіча. У кожным разе, пра гэта ўзгадвалася ў Новым каралеўскім замку — на адкрыцці экспазіцыі карцін У.Качана. Там успаміналася і ягоная «Галгофа», якая вісіць у кабінеце мэра. Прымеркаваная да 870-годдзя горада, выстава стала адметнай падзеяй: называецца яна «Вялікі Гарадзенскі сабор II тысячагоддзя», гэта партрэтная галерэя славутых гістарычных асобаў з XII да XX стагоддзя. Усяго — 10 карцін.

Адкрыў выставу мэр А.Пашкевіч, які прызнаў, што ідэя стварэння такой галерэі партрэтаў перайшла да яго ад «апальнага» Крупенкі, — і перадаў яму слова. Так супала, што Крупенка стаяў пад партрэтам вялікага князя Аляксандра Ягелончыка, які трымае ў руках грамату, што надавала Гародні Магдэбургскае права ў 1496 г. Два гады таму Крупенка забараніў святкаваць 500-годдзе той знамянальнай даты, але гэта яго не ўратавала ад адстаўкі.

Апроч прадстаўнікоў дынастыі Ягелонаў, мастак Качан стварыў партрэт заснавальніка роду гарадзенскіх князёў Усевалада з жонкай (XII ст.); славутага Давыда Гарадзенскага, які ўдала ваяваў з крыжакамі; каралевы Боны Сфорца, якая зацвердзіла гораду герб Алень святога Губерта. Вельмі шыкоўна выглядае партрэт караля Стэфана Баторыя: ён любіў Гродна, памёр тут, і застаўся ў народнай традыцыі па-свойску як Сцяпан Батура. Каралеўская постаць на палатне нагадвае вядомую карціну Яна Матэйкі, але У.Качан паставіў каралю на калена Гродзенскі замак — рэзідэнцыю Баторыя.

У працы мастаку дапамог прафесійны гісторык В.Швед. Пярэчанні ў спецыялістаў, аднак, выклікаў апошні партрэт — царскага чыноўніка Сталыпіна, які быў у Гродне губернатарам, але ўсяго толькі 10 месяцаў. Гэтая праца па сутнасці — сацыяльны заказ. Старшыня аблвыканкама А.Дубко любіць паўтараць, што сваім папярэднікам ён лічыць менавіта царскага губернатара Сталыпіна.

Перад Дубко аблвыканкамам кіраваў апазіцыянер Сямён Домаш, а яшчэ раней — Дзмітрый Арцыменя, якога забіў кілер. Сталыпіна таксама застрэлілі, але, праўда, рэвалюцыянеры.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**



# Ізаляцыя

**Юрый ХАДЫКА**

Для чалавека, які ўпершыню трапляе ў турму, самае цяжкае не дрэнная ежа, не жорсткі ложак ці прыбіральня ў куце ў камеры. Самае цяжкае — ізаляцыя. Ва ўсякім выпадку для мяне найбольш пакутлівымі былі суткі ў адзіночцы. Тры метры вузкага праходу паміж сцяной і нарамі — ад дзвярэй да закратаванага акенца з мутным шклом, праз якое бачны кавалак блакітнага неба. Я зразумеў, чаму нават звяры ў няволі не размнажаюцца. Тым болей чалавек — жывёла сацыяльная.

Гэты ўспамін прыходзіць да мяне, калі я думаю пра той тупік, у які завёў нашу краіну яе першы «усенародна абраны» прэзідэнт. Краіна — не чалавек. Але і яна не можа існаваць у ізаляцыі. Без палітычных, эканамічных, гуманітарных кантактаў. Без міжнароднай дапамогі ў пераадоленні натуральных цяжкасцяў пераходнага перыяду. Усе нашыя суседзі карыстаюцца гэтай дапамогай. Толькі Беларусь яе пазбаўленая. А Мінск, быццам зачумлены горад, пакідаюць прадстаўнікі міжнародных фінансавых арганізацыяў і дабрачынных фондаў.

Завершаную сістэму дыктатуры А.Лукашэнка стварыў, зрабіўшы дзяржаўны пераварот у лістападзе 1996 г. Але ён паслядоўна рыхтаваў яго з моманту абрання на пасаду прэзідэнта. Яго стаўленне да ўлады добра характарызуе ягонае ж выказванне аб рэжыме В.Кебіча: *«Улада валялася пад нагамі»*. Вобраз трапны. Ён адпавядае сітуацыі пераходнага перыяду, калі старая прававая сістэма ўжо не адпавядала існуючым сацыяльным дачыненням, а новая не была створаная. Але яшчэ больш гэтае выказванне характарызуе самога Лукашэнку. Улада — каштоўнасць. Каштоўнасць у гразі. Яе трэба схапіць, прыўлашчыць. Разуменне таго, што каштоўнасць гэтая цяжкая, валоданне ёю — справа адказная, якая патрабуе ведаў, вопыту, цярпення, у свядомасці Лукашэнкі не прысутнічае.

Схапіўшы ўладу, ён і стаў ёю карыстацца, як разумеў. Разуменне ж яго хапала на дзве рэчы. Па-першае, дагадзіць электарату. Па-другое, дасягнуць яшчэ большай улады. Гэтыя дзве задачы не супярэчылі адна адной.

Як дагадзіць электарату, Лукашэнка зразумеў яшчэ пад час выбарчай кампаніі і выявіў пры гэтым нядрэнныя акцёрскія здольнасці. Каб задаволіць вострую прагу людзей да сацыяльнай справядлівасці, ён абяцаў *«разабрацца»* з карупцыянерамі і ўладальнікамі маёнткаў, што як грыбы выраслі вакол гарадоў і мястэчкаў. Ён са слязьмі ў голасе спачуваў людзям, якія таўкуцца на прыпынках, чакаючы грамадскі транспарт. З пенаю на вуснах лаяў *«выбраннікаў народа»*, якія вялі незразумелыя народу спрэчкі ў Авальнай зале Вярхоўнага Савета, і папярэджваў, што яны *«усё роўна падмануць»*. Ён абяцаў *«запусціць заводы»*, каб усе мелі працу. Загадваў *«адкруціць цэны назад»* і г.д. Усё гэта было непрыхаваным цынічным папулізмам.

І яшчэ ён *«раўся з народам»*. Два рэферэндумы і Усебеларускі народны сход менш чым за чатыры гады кіравання — такога не было ні ў адной постсавецкай краіне. Усе яны праведзеныя па-за канстытуцыйнымі нормамі, з грубым парушэннем закона. І ўсе на тэму ўлады.

З 1995 г. галоўным аб'ектам інтэграцыйных ініцыятываў А.Лукашэнкі становіцца Расія. Усімі сродкамі ён імкнецца спадабацца Крамлю. Ён збівае амерыканскі паветраны шар, выступае супраць пашырэння *NATO*, ліквідуе мяжу паміж Беларуссю і Расіяй. Аднак гэтая палітыка дае асечку ў красавіку 1996 г. Пункт аб увядзенні агульнага грамадзянства ў Саюзе Беларусі і Расіі не ўдаецца прапіхнуць з-за супраціўлення расійскага боку і Прэзідыума ВС XIII склікання. Гэты пункт адкрываў Лукашэнку шлях да палітычнай дзейнасці ў Расіі і фактычна ліквідаваў незалежнасць Беларусі.

Тады А.Лукашэнка аб'яўляе адкрытую вайну Вярхоўнаму Савету. І пераможна заканчвае яе, груба сфальсіфікаваўшы вынікі лістападаўскага рэферэндуму і выкарыстаўшы сілу. Па новай канстытуцыі, быццам бы ўхваленай народам, ён ставіць сябе над усімі галінамі ўлады і адраджае структуру кіравання, якая вельмі нагадвае савецкія часы. Толькі замест партыйнай вертыкалі — прэзідэнцкая, якая ў адрозненне ад партыйнай мае сваю маёмасць і свае даходы праз упраўленне справамі прэзідэнта. Роля прадстаўнічых органаў улады зводзіцца да чыстай дэкарацыі, паколькі ўсе яны (ад нацыянальнага сходу да мясцовых саветаў) пазбаўленыя рэальнай улады. Дэкрэты, якія выдаюцца ад імя прэзідэнта, ставяцца вышэй закона, што разбурае прававую аснову дзяржавы. Рэзка ўзрастае колькасць супрацоўнікаў сілавых органаў і пашыраюцца іх паўнамоцтвы.



Створаная сістэма кіравання і з'яўляецца тыповай дыктатурай. Імкнучыся сцэментаваць яе нейкай ідэалогіяй, Лукашэнка кідаецца то ў «праваслаўны атэізм», то ў славянафільства, то да прыкладу гітлераўскай Германіі. Кожны з гэтых фрагментаў яго сінкрэтычнай ідэалогіі абсалютна бесперспектыўны, бо аддае затхлым пахам даўно адкінутых гісторыяй ідэяў. Яны нават не выклікаюць у беларускім грамадстве ніякай рэакцыі, нягледзячы на іх шакіруючую экстравагантнасць. Аднак у сваёй сукупнасці яны даволі выразна малююць карціну месіянскай выбранасці саборнага народа, які пад кіраўніцтвам правадыра ідзе сваім выключным шляхам, канцавая мэта якога, праўда, застаецца нявызначанай.

Нявызначанай невыпадкова. Таму што гэтая мешаніна ідэяў з'яўляецца проста ашмёткамі ідэалогіі манархісцкай Расіі, якая мела гістарычную мэту стварэння адзінай сусветнай праваслаўнай імперыі на базе расійскага этнасу і расійскай культуры. Але тое, што падыходзіла для вялікай Расіі, дрэнна стасуецца з магчымасцямі малой Беларусі. Іншая справа, калі гэтая ідэалогія будзе падмацаваная магчымасцямі Расійскай Федэрацыі. Гэтым і тлумачыцца асаблівая любоў да Лукашэнкі і ягонай інтэграцыйнай палітыкі з боку так званых «народна-патрыятычных» сілаў Расіі.

Але рэжым пакуль не мае выразна акрэсленых гаспадароў у Маскве. Ён толькі шукае іх, ён прапануе разрозненым агрэсіўна-рэакцыйным расійскім сілам Беларусь як базу і ўзор, а свайго лідэра як агульнага правадыра для «вялікай дзяржавы». Аднак у Маскве ёсць уплывовыя людзі, якія разумеюць небяспечнасць і бесперспектыўнасць такой палітыкі. Бо яна непазбежна прывядзе да адраджэння халоднай вайны, канфрантацыі з Захадам, гонкі ўзбраенняў і ізаляцыі. Разумеюць, што для чарговага росквіту расійскага імперыялізму не хопіць і рэсурсаў Расіі, якая ў тэхналагічных адносінах за часы камуністычнага кіравання ператварылася ў краіну «трэцяга свету».

Таму Масква даволі халодна ставіцца да інтэграцыйнага энтузіязму Лукашэнкі, хаця і дазваляе яму прапагандаваць сваю ідэалогію па расійскіх рэгіёнах. І выкарыстоўвае яго вялікія амбіцыйныя планы, каб уцягнуць яго, як карася на вудзе, у яшчэ большую эканамічную, фінансавую і энергетычную залежнасць ад Расіі і ператварыць Беларусь у сваю эканамічную калонію.

Думаю, што еўрапейскія краіны не да канца разумеюць сутнасць створанага Лукашэнкам рэжыму. Для заходніх дэмакратыяў наш прэзідэнт — парвеню (г.зн. дрэнна выхаваны хлопчык), дробны дыктатар, рэжым якога не мае перспектывы. Адзінае, што іх па-сапраўднаму абурыла — грубая падробка вынікаў канстытуцыйнага рэферэндуму. Таму пасля спробы далікатна скіраваць працэс канстытуцыйнай рэформы ў цывілізаванае рэчышча, якая была сарваная Лукашэнкам летам 1997 г., Еўрасаюз 15 верасня таго ж года адмовіў яго рэжыму ў фінансавай падтрымцы. Усе крэдытныя лініі былі спыненыя.

Эфект еўрапейскай ізаляцыі праявіўся надзвычай хутка. Валютныя рэсурсы Нацыянальнага банка былі вычарпаныя ўжо ў лютым 1998 г. А ў сакавіку выбухнуў фінансавы крызіс. Курс долара хутка папоўз угору. А за ім і цэны. У сваім звычайным стылі прэзідэнт загадаў «адкруціць цэны» назад. Яго эмісары гуртом пацягнуліся ў Маскву прасіць дапамогу. За імі ўслед паляцеў і сам Рыгоравіч. Але максімум што яму ўдалося — захаваць дамову аб аплаце энерганосьбітаў пераважна па бартэры. Масква выразна прадэманстравала Беларусі і ўсяму свету, ад каго залежыць і на чым трымаецца рэжым Лукашэнкі.

Адначасна стала відавочна, што знешнепалітычная ізаляцыя Беларусі ў любы момант па жаданні Масквы можа стаць поўнай. Рэжым быццам падвіс у беспаветранай прасторы на адзінай нітачцы імперскіх інтарэсаў Крамля. Сітуацыя тым больш небяспечная, што за гады свайго прэзідэнцтва Лукашэнка ізаляваў свой рэжым і ад беларускага народа. Бясконцая беспардонная мана праз манапалізаваныя СМІ аб гаспадарчых поспехах на фоне свядомага ўхілення ад цяжкай, але непазбежнай працы па рэфармаванні беларускай эканомікі, стварыла сітуацыю, калі мільёны даверлівых дэзынфармаваных людзей не даруюць «усенароднаабранаму» поўнага краху ягонай знешняй і ўнутранай палітыкі.

А крах непазбежны. Бо няма рэальных падставаў лічыць, што місія АБСЕ здолее пераканаць Лукашэнку лібералізаваць свой рэжым. Вызваліць з-пад жорсткага кантролю сродкі масавай інфармацыі і дапусціць да іх апазіцыю. Адвавіць Канстытуцыю 1994 г. Правесці свабодныя выбары. А гэта азначае, што з лета 1999 г. ён стане цалкам нелегітымнаю фігураю ў вачах еўрапейскай супольнасці, і знешнепалітычная ізаляцыя Беларусі ўзмацніцца. Няма рэальных падстаў лічыць, што летам 2000 г. Масква дапусціць Лукашэнку да ўдзелу ў выбарах прэзідэнцкіх ці агульнага беларуска-расійскага прэзідэнта. А поўная адсутнасць здольнасці рэжыму да самастойнага рэфармавання настолькі відавочная, што не пазней лета 2000 года ён канчаткова вычарпае ўнутраныя рэсурсы свайго існавання.

І можа атрымацца так: прачнуўшыся аднойчы раніцай, беларускі электарат даведаецца, што прэзідэнцкі самалёт прызямліўся ў адной з аддаленых краінаў з дыктатарскім рэжымам...

